*Антановіч канчаткова пасварыўся з Еўропай (стар. 2)*
*Туркменбашы — бацька ўсіх туркменаў (стар. 5)*

# СВАБОДА

Год заснавання 1902
Выходзіць з 1990
Галоўны рэдактар
Ігар Гермянчук
Заснавальнік Павел Жук
Выдавец – рэдакцыя
газеты СВАБОДА
Наклад 90.000
Адрас рэдакцыі:
220088, Мінск, вул.Іванаўская, 56
Тэл./факс 2 362 441

Серада, 5 лістапада 1997 г. № 123 Кошт свабодны

## Ляцім туды, дзе нас прымаюць

**Міністр замежных справаў Іван Антановіч вярнуўся з паездкі ў Іран і Ліван, дзе ён сустракаўся з кіраўніцтвам гэтых краінаў.**

Паводле нашых звестак, у гэты рэгіён рыхтуецца візіт прэзідэнта Лукашэнкі. Як адзначаюць назіральнікі, Івану Антановічу ўдалося знайсці агульную мову з кіраўніцтвам Ірана на глебе агульнай нелюбові да заходніх краінаў.

**Б.П.**

## Перазімуем

*Абяцае прэм'ер-міністр*

**На словах прэм'ер-міністра Сяргея Лінга, сёлета Беларусь лепш забяспечана харчаваннем, чым летась.**

У прыватнасці, на 10% больш, чым у мінулым годзе, атрымалі збожжа, на 8,9% вырасла прадукцыйнасць жывёлагадоўлі. Праўда, сабралі вельмі нізкі ўраджай бульбы — усяго 8,7 млн. тон замест запланаваных 11 млн. Да таго ж не паспелі сабраць і пад снег трапіла 5 тыс. тон ільну, шмат буракоў, агародніны.

Адна з асноўных праблем сельскай гаспадаркі — нізкая ўраджайнасць. Каб падвысіць яе, патрэбны ўкладанні ў навуку. Акрамя таго, неабходна абнаўленне тэхнікі, бо шмат вырашчанага губляецца. На думку Лінга, на кожным гектары не менш за 5 цэнтнераў збожжа засталося на зямлі (сабралі ў сярэднім па 27,2 цэнтнера з гектара).

**Алесь САДОЎСКІ**



*Ленін у Зэльве.*

## «Самае галоўнае» ў асабістым жыцці прэзідэнта

**Прэзідэнт Лукашэнка лічыць «самым галоўным» у сваім асабістым жыцці рэгулярныя заняткі спортам.**

Пра гэта ён заявіў журналістам падчас наведання мінскага стадыёна «Дынама». Калі не займацца спортам, у любога прэзідэнта *«галава не будзе працаваць»*, лічыць А.Лукашэнка.

Як паведамляе агенцтва Інтэрфакс, беларускі прэзідэнт рэгулярна па некалькі гадзінаў запар гуляе ў вялікі тэніс, футбол, хакей на лёдзе (нават летам на крытым катку), бегае ў сваёй загараднай рэзідэнцыі на лыжах зімой, а летам — на ролікавых каньках. Для ролікаў вакол рэзідэнцыі кіраўніка дзяржавы была пабудаваная спецыяльная траса.

Кепска, аднак, што трэніроўкі прэзідэнта «бокам вылазяць» для іншых, у прыватнасці для юных спартсменаў, якія займаюцца хакеем на мінскім крытым катку. СВАБОДА ўжо пісала, што тут часта зрываюцца трэніроўкі хакеістаў дзеля таго, каб паганяў шайбу прэзідэнт з кампаніяй.

**Б.П.**

## Каратчэня кажа, што хабар не вымагаў

*Але судзіцца з ОРТ пакуль не збіраецца*

*«Сыходзіць у адстаўку я пакуль не збіраюся»*, — заявіў СВАБОДЗЕ выканаўчы сакратар СНД Іван Каратчэня.

*«Увогуле, працэдура адстаўкі з маёй пасады пакуль не распрацаваная, гэта праблема, якая яшчэ чакае абмеркавання кіраўніцтвам краінаў СНД»*, — упэўнены Іван Каратчэня. Ён таксама абверг звесткі, быццам апошні тыдзень правёў у інтэнсіўных кансультацыях наконт кар'еры. Аказваецца, за свой лёс турбавацца Каратчэні не было сэнсу. Каратчэня кажа, што напярэдадні кішынёўскай сустрэчы лідэраў краін СНД ён быў прыняты Барысам Ельцыным, перад якім не хаваў сваёй гатоўнасці пайсці ў адстаўку, калі да яго ёсць вялікія прэтэнзіі. Але расійскі прэзідэнт такіх прэтэнзіяў не выказаў. Па словах выканаўчага сакратара, Ельцын станоўча ацаніў дзейнасць Каратчэні як галоўнага «каардынатара» інтэграцыі і блаславіў яго на далейшую працу ў гэтай якасці. *«Ні слова крытыкі не прагучала ў мой бок і пасля кішынёўскага саміта»*, — сцвярджае Іван Каратчэня.

У аўторак Іван Каратчэня нарэшце азнаёміўся з відэазапісам суботняй праграмы «Время» Сяргея Дарэнкі, у якой выканаўчага сакратара СНД абвінавацілі ў вымаганні 50 тысячаў долараў. Як паведаміў Каратчэня, ён адразу звязаўся з генеральным пракурорам Расіі Юрыем Скуратавым, каб атрымаць ад яго прафесійную кансультацыю. *«З іскам у суд не спяшайся, спачатку высветлі, адкуль растуць ногі гэтай гісторыі»*, — такую параду, па словах Каратчэні, атрымаў ён ад Скуратава. Рэкамендацыя прынятая. Выканаўчы сакратар СНД пакуль не збіраецца падаваць у суд на ОРТ, але рашуча заяўляе, што *«гэта дзяшовая фальшыўка»*. *«Мяне правакуюць змагацца з ценю, хочуць, каб я апраўдваўся ў тым, чаго ніколі не было. Не дачакаюцца. І ўвогуле, нешта малы «хабар» яны мне прыпісалі. Самі бяруць долары каробкамі, а мяне ацанілі ўсяго ў 50 тысяч!»* — смяецца Іван Каратчэня.

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

### ДА ЧЫТАЧОЎ

Шаноўныя чытачы! Рэдакцыя СВАБОДЫ прапануе кожнаму з Вас выказаць сваё меркаванне наконт нашай газеты. Мы публікуем сёння анкету *(глядзіце стар.7)* з мэтаю атрымаць адказы на некаторыя важныя для рэдакцыі пытанні. У прыватнасці, мы зацікаўлены ў пашырэнні кола падпісчыкаў нашай газеты. Сітуацыя складваецца так, што продаж газеты праз кіёскі не акупляецца, а толькі наносіць нам страты (з прычыны значных адлічэнняў «Белсаюздруку»). Таму мы вымушаныя скарачаць рознічны продаж і рабіць стаўку на падпіску. Вашыя адказы на анкету дапамогуць нам лепш зарыентавацца ў дадзенай сітуацыі.

**РЭДАКЦЫЯ**

***P.S. Дарэчы, да 10 лістапада яшчэ можна аформіць падпіску на снежань. Гэта Вам абыдзецца на 10 тыс. рублёў танней, чым купляць газету ў кіёсках.***

***Сённяшні нумар СВАБОДЫ выходзіць павялічаным аб'ёмам, паколькі ў пятніцу газеты не будзе — у друкарні выходны. Наступны нумар СВАБОДЫ (з TV-праграмай) выйдзе ў аўторак.***

## Плаці, а то адключым

**Расійскія тэлеканалы запазычылі Беларусі 15 млн. долараў ЗША за трансляцыю сваіх праграм.**

Пра гэта заявіў намеснік кіраўніка адміністрацыі беларускага прэзідэнта Іван Пашкевіч. Па яго словах, з *«4 тэлеканалаў РФ, якія транслююць свае праграмы на тэрыторыі Беларусі, аплачвае паслугі беларускага міністэрства сувязі толькі НТВ»*. Пашкевіч сказаў, што прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка даў даручэнне міністру сувязі звярнуцца да кіраўніцтва расійскіх тэлекампаній з патрабаваннем выплаціць даўгі. У выпадку няўплаты да 1 студзеня сумы пазыкі, *«на частотах аднаго з названых каналаў будзе вяшчаць другі беларускі канал»*, — зазначыў Пашкевіч. *«Кіраўніцтва беларусі не разумее, чаму яно павінна аплачваць «падрыўную» ў адносінах народа нашай дзяржавы дзейнасць некаторых расійскіх тэлекампаній»*, — адзначыў намеснік кіраўніка прэзідэнцкай адміністрацыі.

*Інтэрфакс*

## У наступным нумары



**Ягор ГАЙДАР:** *«Беларуская апазіцыя можа разлічваць на падтрымку расійскіх палітычных сілаў»*.

**«Бацька» расійскай эканамічнай рэформы Ягор Гайдар даў інтэрв'ю аглядальніку нашай газеты. Чытайце СВАБОДУ ў аўторак.**

## Што святкуем?

**Дзень 7 лістапада застаецца ў нашых календарах чырвонай датай — дзяржаўным святам. Ва ўсіх гарадах і вёсках Беларусі ўлады запланавалі правядзенне традыцыйных урачыстых сходаў і маніфестацый або мітынгаў.**

Для таго, каб мітынгоўцы не гаварылі лішняга, адміністрацыя прэзідэнта «спусціла» ўніз па вертыкалі метадычныя рэкамендацыі, у якіх кастрычніцкай рэвалюцыі даецца «правільная» ацэнка. У Гродне мясцовае кіраўніцтва палічыла патрэбным правесці тэарэтычную канферэнцыю «Гістарычны вопыт Вялікага Кастрычніка», а ў Магілёве гарадская арганізацыя КПБ надала гэтаму мерапрыемству «навукова-практычны» характар. (Няўжо збіраюцца штурмаваць Дом урада?)

Кіраўнікі міністэрстваў, мясцовых выканкамаў, прадпрыемстваў, навучальных установаў абвясцілі, што ўдзел у маючых адбыцца ўрачыстасцях — справа добраахвотная. У сталіцы, напрыклад, Заводскі раён збіраецца вывесці на дэманстрацыю калону з 200 ветэранаў вайны і працы і такую ж колькасць прадстаўнікоў працоўных калектываў. Але галоўнай падзеяй у раённай адміністрацыі лічаць адкрыццё дзвюх новых станцыяў метро — «Партызанская» і «Аўтазаводская».

У рэктараце Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя Леніна нам сказалі, што будуць святкаваць у гэтыя дні не кастрычніцкі юбілей, а 10-годдзе сваёй каманды КВН. У Беларускім эканамічным універсітэце з нагоды «чырвонага юбілею» працоўным ветэранам (іх тут 19) выдзелілі прэміі ў памеры службовага акладу, а непрацоўным — мінімальную зарплату.

Студэнтаў урачыстасці не закрануць, за выключэннем тых, хто ўдзельнічае ў пракамуністычных арганізацыях ці ўваходзіць у Беларускі патрыятычны саюз моладзі. Маладыя таварышы выйдуць на маніфестацыю асобнымі калонамі.

### Магілёў і тут першы

Безумоўны лідэр 80-й рэвалюцыйнай гадавіны — Магілёўская вобласць. Тут пачалі святкаваць юбілей яшчэ ў канцы кастрычніка (відаць, забыліся на розніцу паміж старым і новым календаром). Цэнтр Магілёва завесілі вялікімі чырвонымі сцягамі, электрычных гірляндаў запалілі столькі, колькі бывае хіба што на Новы год. Кошт рэвалюцыйна-святлавой феерыі ў Магілёўскім гарвыканкаме не асмеліўся назваць ніхто. Праўда, прагаварыліся, што абыйдзецца гэта ў некалькі мільярдаў рублёў. Відаць, каб кампенсаваць настальгічныя выдаткі, у раёнах і мікрараёнах горада амаль кожны дзень адключаюць электрычнасць на гадзіну-дзве. Афіцыйныя прафсаюзы рыхтуюцца правесці мітынгі сацыяльнага пратэсту пад абстрактнымі лозунгамі «За лепшае жыццё — супраць горшага».

Па-бальшавіцку размашыста сустракаюць «чырвоны юбілей» у Бабруйску. Не дзіўна: мясцовы мэр Раманенка заўсёды падкрэслівае сваю сімпатыю да камуністаў. Тут таксама шмат сцягоў і ілюмінацыі. На прадпрыемствах ужо ведаюць, колькі чалавек трэба выставіць на дэманстрацыю 7 лістапада.

У Шклове таксама створаны аргкамітэт святкавання кастрычніцкага юбілею. Яго ўзначаліў першы сакратар Шклоўскага райкама КПБ, які па сумяшчальніцтве кіруе мясцовым райсаветам.

У Мазыры дырэктары некаторых школ, каб выслужыцца перад начальствам, абвясцілі настаўнікам, што на мітынг «ўчка абавязковая».

У Мінску дырэктарам школ вусна «параэкамендавалі» прыняць удзел у маніфестацыі. Памятаеце, як у вядомым тэледэтэктыве: «Была толькі вусная дырэктыва Шэленберга». Па-першае, вусна, па-другое, не загад. Не хочаш — не выконвай, але памятай: «высока сяджу — далёка гляджу...»

**Барыс ТАСМАН**

# Антановіч канчаткова пасварыўся з Еўропай

**Еўропа не хоча мець ужо ніякіх дачыненняў з афіцыйным Мінскам.**

*«Еўрапейскі Саюз не бачыць падстаў для аднаўлення трохбаковых кансультацый з удзелам прадстаўнікоў адміністрацыі прэзідэнта Беларусі, Вярхоўнага Савета 13-га склікання і сўраструктур»*, — заявіў, знаходзячыся ў мінулыя выхадныя ў Мінску, кіраўнік дэлегацыі еўрапейскай камісіі па Беларусі Луіс Марэна.

Ён патлумачыў, што пасля зрыву чарговага этапа перамоваў у адрас Еўрасаюза з Мінска прыйшоў ліст, вытрыманы ў вельмі жорсткім тоне, пад пасланнем стаіць подпіс міністра замежных справаў Беларусі Івана Антановіча. Луіс Марэна больш нічога канкрэтнага не паведаміў, але аб змесце гэтага ліста можна меркаваць па тым, што Савет міністраў замежных справаў краін ЕС прыняў рашэнне наогул не адказваць беларускаму калегу.



*Івану Антановічу не падабаецца...*

Як адзначыў Луіс Марэна, падобных выпадкаў у ЕС не было ўжо на працягу апошніх 15 гадоў. Паводле звестак кіраўніка дэлегацыі еўракамісіі, ЕС прыме вельмі жорсткія меры ў дачыненні да афіцыйных уладаў Беларусі. У прыватнасці, вырашана не заключаць на 1998 год гандлёвага пагаднення з Мінскам.

*БелаПАН*

# 9 лістапада – дзень барацьбы з фашызмам

**Мінскі гарвыканкам не дазволіў актывістам «Маладой Грамады» і «Грамадзянскага форуму» правесці пікет у Міжнародны дзень барацьбы з фашызмам — 9 лістапада.**

Прадстаўнікі маладзёжных арганізацыяў Беларускай сацыял-дэмакратычнай (Народная Грамада) і Аб'яднанай грамадзянскай партый планавалі ўскласці кветкі і правесці невялікі пікет каля мемарыяльнага знака на месцы пакарання смерцю падпольшчыкаў у гады Вялікай Айчыннай вайны — у скверы каля тэатра імя Янкі Купалы. Сваю адмову Мінгарвыканкам матываваў тым, што названыя арганізацыі не прадставілі дакументаў аб сваёй рэгістрацыі ў міністэрстве юстыцыі.

Аднак, на думку актывіста «Маладой Грамады» Сяргея Марцалева, улады пабаяліся, што ўдзельнікі пікету правядуць аналогіі паміж падзеямі ў Беларусі паўстагоддзя таму і сёння. Як запэўніў С.Марцалеў, жалобны вянок усё ж будзе ўскладзены да памятнага месца.

# Вярхоўны Савет пашле дэлегацыю ў Вену

**Прадстаўнікі Вярхоўнага Савета Беларусі 13-га склікання афіцыйна запрошаныя на зімовае паседжанне Пастаяннага камітэта Парламенцкай Асамблеі АБСЕ.**

Адпаведны дакумент, падпісаны старшынёй Парламенцкай Асамблеі АБСЕ Хав'ерам Рупэрэсам, атрымала ў панядзелак кіраўніцтва Вярхоўнага Савета. У лісце ўказваецца, што зімовае паседжанне Пастаяннага камітэта пройдзе ў Вене 19—20 лютага 1998 г.

*БелаПАН*



# Народны Фронт адзначыць гадавіну рэферэндуму

**Наступная буйная акцыя апазіцыі намечаная на 24 лістапада — гадавіну рэферэндуму аб унясенні змяненняў у Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь.**

Пра гэта паведаміў журналістам выконваючы абавязкі старшыні БНФ Лявон Баршчэўскі. Як сказаў Л.Баршчэўскі, у Беларускага народнага фронту існуе папярэдняя дамоўленасць з кіраўніцтвам Вярхоўнага Савета 13-га склікання.

Бліжэйшымі днямі будзе пададзеная адпаведная заяўка. Калі ж Вярхоўны Савет па нейкіх прычынах не зможа або адмовіцца ад удзелу ў акцыі, Народны Фронт возьме на сябе ўсе арганізацыйныя абавязкі і адказнасць за яе правядзенне, паведаміў Л.Баршчэўскі.

*БелаПАН*

# Юрысты рэкамендуюць дэпутатам

**Рэкамендацыі парламентам і ўрадам Беларусі, Малдовы і Украіны прынялі ўдзельнікі міжнароднага семінара па пытаннях судова-прававой рэформы, які прайшоў нядаўна ў Кіеве.**

Юрысты, якія прадстаўлялі міжнародныя праваабарончыя арганізацыі, кіруючыся прынятымі Саветам Еўропы дакументамі, прапанавалі ўладам гэтых краінаў прывесці нацыянальныя заканадаўствы ў адпаведнасць з міжнароднымі канвенцыямі.

Цікава тое, што ўдзельнікі семінара выдзелілі асобнымі пунктамі патрабаванні адна віць у Беларусі незалежную прыватную адвакатуру і неадкладна прыняць закон аб упаўнаважаным па правах чалавека.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

# Беларусь не выконвае агульнапрынятыя нормы

## *Такую выснову зрабіла Федэрацыя Хельсінкскіх камітэтаў*

Тры дні знаходзіўся ў Беларусі выканаўчы дырэктар Федэрацыі Хельсінкскіх камітэтаў Аарон Роўдс. Галоўная мэта ягонага візіту — падрыхтоўка міжнароднай канферэнцыі «Усталяванне свабоды і дабрабыту ад Балтыйскага да Чорнага мора», якая пройдзе ў Мінску 5—6 снежня, а таксама каардынацыя сумеснай працы з Беларускім Хельсінкскім камітэтам.

На прэс-канферэнцыі дырэктар ФХК унёс яснасць наконт даклада Крысцін Стоўн з г.зв. «Брытанскай Хельсінкскай групы», які нядаўна публікаваўся ў «Советской Белоруссии», і ў якім становішча з правамі чалавека ў Беларусі ацэньваецца як нармальнае. А.Роўдс паведаміў, што «брытанская групоўка ніяк не звязаная з Федэрацыяй Хельсінкскіх камітэтаў, яна толькі сама сябе называе Хельсінкскай групай. Яна ўвогуле не з'яўляецца праваабарончай арганізацыяй — гэта проста група людзей, нейкім чынам зацікаўленых ва Усходняй Еўропе. Супярэчнасці з гэтай групай у нас маюцца не толькі ў адносінах да Беларусі, але і да іншых краінаў (напрыклад, Албаніі). Гэтая група ператварылася ў марыянетку ўрадаў розных краінаў». А. Роўдс параўнаў дзейнасць брытанскай групы з сітуацыяй, калі некаторыя заходнія інтэлектуалы прыязджалі ў Савецкі Саюз сталінскіх часоў і пасля давалі хвалебныя водгукі.

«Іхні даклад, — сказаў Роўдс, — абсалютна не адпавядае стандартам якасці, якія маюцца для дакументаў такога кшталту. У дакладзе шмат фактычных памылак. Не вытрымліваецца прынцып раўнапраўя: для англічанаў у іх адно права, а для беларусаў — іншае. Напрыклад, яны папракаюць беларускую апазіцыю несанкцыянаванымі выступленнямі — а хіба яны мусяць у каго-небудзь прасіць санкцыі на выступленні ў сваёй Англіі?»

«Беларускі ўрад карыстаецца гэтым дакладам, каб апраўдаць свае парушэнні правоў чалавека. Даклад мае толькі адну мэту — узмацніць беларускую дзяржаўную прапаганду», — рэзюмаваў А.Роўдс.

Ацэньваючы стан правоў чалавека ў Беларусі, А.Роўдс засяродзіў увагу на абмежаваннях свабоды слова, друку і сходаў, на перашкодах для работы незалежных прафсаюзаў, адзначыў «адсутнасць права і магчымасцяў мець незалежную адвакацкую абарону». «Трывогу выклікае шэраг дэкрэтаў і ўказаў прэзідэнта: напрыклад, аб працоўнай дысцыпліне, па барацьбе з тэрарызмам» — апошні, на думку сп. Роўдса, можа скарыстоўвацца «ў адносінах да палітычных апанентаў».

«Канстытуцыю 1996 г. нельга лічыць легітымнаю, — падкрэсліў выканаўчы дырэктар ФХК. — Вяршэнства закона ў Беларусі не захоўваецца, сапраўднага падзелу ўладаў не існуе, судовая сістэма не з'яўляецца незалежнай. Няма іншай краіны ў Еўропе, дзе ўплыў аднаго чалавека на грамадства такі моцны, як у Беларусі». Абагульняючы сказанае, А.Роўдс зрабіў наступную выснову: «Ёсць агульнапрынятыя прынцыпы захавання правоў чалавека, і сённяшняя Беларусь не адпавядае гэтым прынцыпам».

Становішча з правамі чалавека ў Беларусі ў бягучым годзе адлюстраванае ў дакладзе Федэрацыі Хельсінкскіх камітэтаў, які будзе разглядацца на паседжанні АБСЕ ў гэтым месяцы ў Варшаве.

Кансультант ФХК па постсавецкіх еўрапейскіх краінах У.Вайсман крануў эканамічную сітуацыю ў Беларусі, якая цікавіць яго «перш за ўсё тым, што прынясе тое ці іншае эканамічнае дзеянне чалавеку з вуліцы». Як зазначыў сп.Вайсман, «заходнія дзелавыя колы не давяраюць таму, што тут робіцца ў эканоміцы, бо не думаюць, што гэта можа прывесці да росквіту».

Госці з Федэрацыі Хельсінкскіх камітэтаў сустрэліся з намесніцай міністра замежных справаў Беларусі Нінай Мазай. Яны звярнулі ўвагу на пункты Хельсінкскага пагаднення, якія парушае Беларусь, і прапанавалі паслугі юрыстаў і экспертаў, якія маглі б абмеркаваць з урадам абавязкі Беларусі па Хельсінкскіх дамоўленасцях і знайсці сумесную трактоўку гэтых абавязкаў. Адказу на гэтую прапанову яны пакуль не атрымалі, аднак Н.Мазай падзякавала Федэрацыі Хельсінкскіх камітэтаў і станоўча ацаніла яе работу.

**Вадзім КАЗНАЧЭЕЎ**

# Далажылі ААН пра правы чалавека

**У мінулы чацвер Беларусь прадставіла ў Камітэце ААН па правах чалавека ў Жэневе даклад аб грамадзянскіх і палітычных правах у Беларусі.**

Беларусь, як і іншыя 140 краінаў, што падпісалі Міжнародны пакт аб грамадзянскіх і палітычных правах, мусіць рэгулярна прадстаўляць у Камітэт такія справаздачы. Сёлетні даклад — ужо чацвёрты па ліку.

У афіцыйным дакладзе беларускага ўрада гаворыцца, што апошнім часам у Беларусі прытрымлівацца правоў чалавека стала цяжэй, бо, маўляў, пераход ад цэнтралізаванай да рынкавай эканомікі прывёў да эканамічнага крызісу і пагаршэння жыцця людзей. Адзначаецца, што прынясце ў сакавіку 1994 года новай Канстытуцыі паказала, што Беларусь канчаткова выбрала дэмакратыю і абавязваецца прытрымлівацца правоў чалавека. Складальнікі справаздачы запэўніваюць сусветную супольнасць, што рэферэндум 1996 года быў цалкам законным.

Намеснік міністра замежных справаў Беларусі Ніна Мазай, якая прадстаўляла даклад, адзначыла, што беларускі народ яшчэ недастаткова карыстаецца сваімі правамі, бо працэс дэмакратычнага рэфармавання, што праводзіць беларускі ўрад, запаволіўся з прычыны эканамічных цяжкасцяў. Але ўрад працягвае змагацца з цяжкім эканамічным становішчам і намагаецца стварыць у Беларусі плюралістычнае грамадства. Ніна Мазай паведаміла, што ў Беларусі існуе поўная свабода выказвання сваіх думак — гэтае права гарантуецца Канстытуцыяй. Гэта пацвярджаецца, маўляў, і тым фактам, што ў Беларусі на сённяшні дзень існуе каля 800 перыядычных выданняў, а таксама каля 300 радыё- і тэлестанцыяў.

Пасля аптымістычнага выступлення афіцыйнай дэлегацыі кіраўнік Беларускага Хельсінкскага камітэта Таццяна Працька прадставіла свой альтэрнатыўны даклад аб шматлікіх парушэннях правоў чалавека ў Беларусі, пасля чаго ў членаў камітэта ўзнікла шмат дадатковых пытанняў да афіцыйнай дэлегацыі.

Рэферэндум 1996 года, адзначаецца ў дакладзе БХК, быў праведзены з парушэннямі заканадаўства, *«пазбавіў народ Рэспублікі Беларусь права на свабоднае праяўленне сваёй волі; фактычна ліквідаваў прынцып верхавенства Канстытуцыі і законаў; надзяліў прэзідэнта практычна неабмежаванымі паўнамоцтвамі; ліквідаваў канстытуцыйныя процівагі, якія забяспечваюць баланс уладаў; ператварыў парламент у безуладны дарадчы орган, а Канстытуцыйны суд, Вышэйшы Гаспадарчы суд, пракуратуру, Камітэт дзяржаўнага кантролю, Цэнтральную камісію па выбарах і правядзенні рэспубліканскіх рэферэндумаў — у залежныя ад прэзідэнта інстытуты ўлады»*. БХК канстатуе, што беларускія ўлады *«перашкаджаюць дзейнасці недзяржаўных грамадскіх арганізацый, праваабарончых і прафсаюзных рухаў»*.

Матэрыялы БХК падзеленыя на 20 тэматычных блокаў. Яны ўтрымліваюць інфармацыю аб фактах парушэння асноўных правоў чалавека — на жыццё, свабоду і бяспеку асобы; на свабоду ад адвольнага арышту, затрымання або выгнання; на адкрыты разгляд справы незалежным і справядлівым судом; на прэзумпцыю невінаватасці; на свабоду думак, сумлення і рэлігіі; на свабоду перакананняў і на свабоднае іх выяўленне; на свабоду мірных сходаў і асацыяцый; на працу і свабодны выбар працы, а таксама права ствараць прафесійныя саюзы і інш.

Пад канец мерапрыемства выступіла старшыня Камітэта ААН па правах чалавека Крыстына Шанэ. Яна адзначыла, што камітэт разумее цяжкасці, з якімі сутыкаецца Беларусь у працэсе пераходу да дэмакратыі. К.Шанэ выказала надзею, што гэты перыяд не будзе доўгім.

Інфармацыя, прадстаўленая Беларускім Хельсінкскім камітэтам, будзе ўлічвацца пры вынясенні канчатковых рэкамендацый камісіі, якія павінны быць прынятыя 7 лістапада.

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

## Спасибо фонду «Дзецям Чарнобыля»

Уважаемая редакция! Пишу в газету впервые, хотя являюсь постоянным вашим читателем и поклонником.

В 1991 году в результате аварии на Чернобыльской АЭС моя семья была отселена в г.Брест, где мы и проживаем в настоящее время с 3 детьми. На новом месте у моей дочери Светланы (1985 г.р.) стал прогрессировать сколиоз (искривление позвоночника). Дочку определили в спецшколу-интернат, но все старания врачей не дали эффекта, и в мае 1997 года дочери решили оперировать позвоночник.

Моему горю не было конца. В поисках помощи я обратилась в Минске в фонд «Дзецям Чарнобыля» и попросила обследовать дочку в Германии, если это возможно. В этот фонд я обратилась впервые. И какое нам уделили внимание — огромное! Дочь включили в группу, и Светлана в августе уехала в Германию, г.Хаген, на целый месяц. За это время ее обследовали немецкие врачи-ортопеды. Операцию не рекомендовали делать — это очень опасно для ребенка в 12 лет. Зато ей предложили изготовить корсет. Больно матери видеть ребенка в таком корсете несколько лет, но во всяком случае есть надежда, что ее здоровье улучшится. К слову, в Германии мою дочь обследовали комплексно и дали новые очки.

Я очень благодарна фонду «Дзецям Чарнобыля». У нас в семье появилась надежда, и мы теперь знаем, что судьба и здоровье Светланы — в руках настоящих друзей.

**Людмила ГАНЖИНА,** *г.Брест*

## Адным – пышнае свята, другім – хоць хлеба акрайчык

Не так даўно наш горад Асіповічы святкаваў сваё 125-годдзе. Весяліліся на славу. Але не ўсім было весела.

Я педыятр, і з года ў год бачу, як павялічваецца колькасць дзяцей-сіротаў пры жывых бацьках. Нашае дзіцячае аддзяленне бальніцы служыць першым прытулкам для такіх дзяцей. Бывае, што іх, вашывых і каросліўых, прыводзяць «падкарміцца і падлячыцца» перад адпраўкай у дзіцячы дом.

Часцей гэтыя дзеці фізічна і псіхічна здаровыя, але пры маральна хворых бацьках яны пазбаўленыя дзяцінства і наўрад ці чакае іх нешта добрае ў будучыні. Бывае, што такіх дзяцей усынаўляюць, але ж бацькамі дзіцяці становяцца зусім чужыя людзі. Не заўсёды малое ўваходзіць у сям'ю, здараюцца выпадкі, што вяртаюць выхаванцаў, — быццам цацку, якая абрыдла.

Тады такое дзіця чакае дзіцячы дом — прытулак, дзе свае законы і правілы так далёкія ад сямейных.

Слава Богу, што яшчэ не адмовіліся ад дапамогі ім дабрачынныя замежныя арганізацыі. Але ствараецца ўражанне, што наш урад гэтая праблема турбуе мала, а чыноўнікаў задавальняе такая сітуацыя.

Бацькам гэтых дзяцей нічога не трэба, яны ўсім у жыцці задаволены: выпіў гарэлкі — і на бок. Іх дзеці — маўклівая скаціна, якая рада кавалку хлеба. Бачылі б вы, як яны хаваюць акрайчыкі пад падушку, а потым употай з'ядаюць іх пад коўдрай!

А грошы на дапамогу такім дзецям можна ўзяць там, дзе бяруцца яны на святкаванне дзён горадоў, на ўрадавыя самалёты, на ўтрыманне шматлікіх бяздарных чыноўнікаў, спецслужбаў і аховы.

**Таццяна БАРЭЛЬ,** *г.Асіповічы*

## Будучыня – за беларускай школай

Намаганні ўладаў па вынішчэнні беларускага ў сферы адукацыі прывялі да таго, што, напрыклад, у Гродне ў 1997 г. пачалі навучанне на беларускай мове толькі 4 першыя класы (у 1994 іх было 75).

Сёння нам яшчэ далёка да ўмоваў жыцця ў цывілізаванай вольнай краіне. І бацькі, якія аддалі дзяцей у беларускія класы або працягваюць навучаць іх там, праяўляюць не толькі мужнасць, але і дальнабачнасць. Яны разумеюць, якую карысць іх дзецям у будучым прынясе навучанне на беларускай мове. Можна не сумнявацца, што антыбеларуская палітыка розных рэжымаў адыдзе ў нябыт.

Мы, прадстаўнікі дэмакратычных партый і грамадскіх арганізацый Гродзеншчыны, выказваем сваю шчырую падзяку ўсім бацькам, дзеці якіх вучацца ў беларускамоўных класах, а таксама іх настаўнікам — за мужнасць, годнасць і веру ў будучыню Беларусі!

Здароўя вам і поспехаў!

*Ад Таварыства беларускай школы — старшыня*
**Алесь МІЛІНКЕВІЧ**, *дацэнт*
*Ад Таварыства беларускай мовы — старшыня*
**Аляксей ПЯТКЕВІЧ**, *прафесар*
*Ад Таварыства беларускай вышэйшай школы — старшыня*
**Алесь АСТРОЎСКІ**, *прафесар*
*Ад БНФ «Адраджэнне» — старшыня гарадской арганізацыі Гродна*
**Сяргей МАЛЬЧЫК**, *дацэнт*



## Как мне вернуться в родную Беларусь?

Уважаемая редакция! Хочу обратиться через вашу газету с вопросом: как мне жить дальше? Я родился в Минске, но не могу вернуться к себе на родину, по сути я оказался изгнанником. А все начиналось так.

1982 год (пятнадцать лет назад!) Очередной призыв партии и правительства: «Все на освоение Сибири». И я, как патриот своей «великой страны», решил тоже поехать и освоить эту самую Сибирь, хотя я уже тогда вышел из романтического возраста. Но, здраво поразмыслив, решил, что, поработав на севере, я смогу заработать себе обеспеченную старость.

Сказано — сделано. Как раз тогда белорусские строительные организации набирали людей для строительства поселка нефтяников Лангепас. Сейчас это город, и по сибирским меркам — довольно приличный, а тогда, в 1982-м, его и поселком трудно было назвать. Примерно на половине пути между Нижневартовском и Сургутом, в нескольких километрах от железнодорожной ветки, посреди тайги и болот стояло несколько вагончиков для семейных и несколько щитовых сборных домиков (в просторечии называемых «бичарнями»), служивших одновременно общежитием для холостого контингента и гостиницей для командированных. Всю эту архитектурную композицию завершал величественно стоящий посредине поселковой площади, зимой промерзающий насквозь, а летом источающий определенные запахи общественный туалет. Вот, собственно, с чего начиналось строительство города Лангепас.

Ко всем этим бытовым «удобствам» нужно добавить резко континентальный климат, а это значит, что зимой жестокий мороз до 30—40 градусов, летом столь же изнуряющая жара, плюс комары, мошка и гнус, не дающие покоя ни днем, ни ночью, и еще питьевая вода, привозимая из скважин дважды в сутки автомобилями с цистернами и имеющая столь значительные добавки железа, что сама по себе она имела бурый цвет, а на ведре после того, как отстаивалась, оставался ржавый налет.

Одним словом, условия этого региона приравнивались к условиям Крайнего севера, что и зафиксировано соответствующей записью в трудовой книжке. Как вы понимаете, это не могло положительно отразиться на моем здоровье. И тем не менее я добросовестно отработал в этих условиях до своего пенсионного возраста.

В 1996 году я ушел на пенсию и хотел бы вернуться обратно в Беларусь к своей семье, но не могу это сделать. Приняв белорусское гражданство, я теряю все северные надбавки, заработанные таким трудом. Мало того, при переводе пенсии в Беларусь по официальному курсу и при получении пенсии в белорусских «зайцах» я теряю 2/3 своих денег. Как это назвать — я не знаю, но даже рэкет не берет такую мзду со своих «клиентов». Они более прозорливы и понимают, что, почистив до основания один раз, второй раз уже нечего будет чистить. Таким образом правительство лишает себя притока российских рублей в государственную казну, определив такой грабительский курс для меня, да и многих таких, как я.

Вот и получается, что я вроде как изгнанник из своей отчизны. Мало того, что сначала павловская, потом гайдаровская реформы лишили меня всех сбережений, так теперь и лукашенковское правительство хочет оттяпать большую часть моей пенсии. Сколько же можно обманывать и грабить честных людей?

Некоторые скажут: сам, мол, виноват, кто тебя гнал в эту Сибирь... Конечно, никто не гнал, сам, по своей воле поехал, и, как впоследствии оказалось, это была не самая лучшая идея в моей жизни. Кто же знал тогда, что наше народное правительство нас так жестоко обманет, тем более, что я сам был коммунистом и свято верил во все программные установки партии. Ну что поделаешь — был таким наивным членом партии.

Кто же мог тогда такое предположить? Это даже ЦРУ со своим сверхмощным аппаратом не могло предвидеть, что Советский Союз прикажет долго жить, в результате чего я и оказался в вынужденной эмиграции, вдали от семьи, став гражданином другого государства.

Вот и хотелось бы мне узнать: может кто-нибудь подскажет, как мне вернуться на Родину и воссоединиться с семьей. При этом мне не хочется, чтобы с меня сдирали последние штаны, потому как при переводе вполне приличной российской пенсии в белорусские «зайцы» я буду получать чуть больше миллиона рублей. На эти деньги по сегодняшним временам не то что штаны купить, а и нормально питаться невозможно. Хотелось бы узнать, где же президентская поддержка соотечественников, оказавшихся за границей, обещанная Лукашенко во время посещения Лангепаса, — или это был его очередной политический трюк?

**М.Ф.КАСПЕРОВИЧ**

## Это не пустые слова...

Уважаемая редакция!

Я, вольный человек, хочу обратиться через вашу газету к Вольному Народу Великой Беларуси.

Прочитав эти строки, многие наверняка подумают: «Вот, выискался еще один свободолюбец». Да! Я люблю свободу и никому не позволю отобрать ее у меня! Я выстрадал право так говорить и так обращаться к вам, мои братья-белорусы. Спросите, кто я? Коренной белорус. Родился и вырос на Полесье. Ветеран кавказской войны, прошел ее от и до.

Скажете — мерзавец, наемник! И будете неправы. На горе друга не разживешься. Я отстаивал свободу чеченского народа с оружием в руках по убеждению и не заработал на этом ни цента.

И вот теперь я здесь, на моей родной, любимой Батьковщине, на Великой Беларуси.

Поражаюсь, сердце кровью обливается. Как можно?! Как вы могли допустить, чтобы из вас сделали «стадо баранов»?!

Ситуацию каждый из вас прекрасно понимает сам. Но большинство молчит. Я хотел бы спросить у вас: может, хватит Беларуси быть западной вотчиной России? Пора возродить свою Батьковщину и создать свободное независимое государство, где главной ценностью является человек!



*На снимке — часть моей группы, ребята, с которыми мы были там, на Кавказе, под чеченским зеленым флагом с бело-красно-белой полосой.*

Это письмо написано не от меня одного, а от нас — реальной силы, которая может проявить себя в ближайшее время, если начнутся террор и репрессии. Клин клином вышибают.

Видит Аллах, это не пустые слова.

И пока наша земля не стала настоящей Беларусью, я подписываюсь —

**Магомед**

## РАДКІ З ЛІСТОЎ

**У НАС У БАРАНАВІЧАХ** да гадавіны бальшавіцкага перавароту горад чысцяць, прыбіраюць — наводзяць парадак, адным словам, каб добра глядзелася. Перапала і дому, у якім я жыву. Ён выходзіць аднoй сцяной на будынак чыгуначнага вакзала, дык гэты фасад адрамантавалі на славу: памалявалі новай фарбай, памянялі вадасцёкі і карнізы падмазалі — усё як мае быць. Але ж у двары дома, у пад'ездах — ніхто нічога не рабіў, хоць будынку нашаму ўжо сорак гадоў і ні разу не было рамонту. Няўжо дзеля таго, каб у пад'ездах зрабілі хоць які рамонт, мне давядзецца пісаць на сценах і лесвічных пляцоўках патрыятычныя лозунгі, чаго я дагэтуль ніколі не рабіў?

**А.РЫМАРУК,** *Баранавічы*

**ПОВЫШЕНИЕ ЗАРПЛАТЫ** с 1 сентября — это сущее издевательство. Отобрали у бюджетников 160 тыс. в месяц прибавки к зарплате, увеличивают ставки, но реальная зарплата ничуть не стала больше. А профсоюзы говорят, что «большего добиться от правительства было невозможно». Вот уж защитники так защитники!

**Казимир ЛЕОНОВ,** *Минск*

**НЕДАВНО ПРЕЗИДЕНТ** публично заявил, что Белорусское телевидение обошло по популярности все остальные программы. А на днях гомельская газета «Телепанорама» опубликовала опрос о популярности программ и передач ТВ. Так вот, лучшим каналом зрители считают НТВ (60%), на втором месте ОРТ (50%), а БТ — на последнем месте, набрало только 10% голосов. Вот она — «популярность» БТ: люди устали от ежедневной лжи чиновников из окружения президента и телеведущих.

**Ш.ЧАПАЕВ,** *г.Гомель*

**ВОТ ПРИДУМАН ПРОЕКТ** декрета «О неотложных мерах по укреплению трудовой и исполнительской дисциплины», все его обсуждают, хочу и я предложить дополнение. Исполнительская дисциплина начинается с правительства, которое в начале года обещало остановить инфляцию. Президент в январе говорил, что если к середине года инфляция не будет остановлена, то правительство уйдет в отставку. И что же? Сегодня каждый житель, войдя в магазин, видит неукротимый рост цен, причем ежедневно. В сентябре, после объявления о повышении зарплаты, цены вообще вышли из-под контроля. А правительство продолжает руководить и доказывать всем, что жизнь улучшается. Где же ответственность высших чиновников?

Поэтому предлагаю включить в декрет статью о персональной ответственности членов правительства за выполнение основных показателей экономического развития и немедленном снятии с должности — с возмещением ущерба для экономики за счет личных средств министров: уж они-то люди не бедные.

**И.ЛЕОНОВИЧ,** *Гомель*

# Цена коммунизма



**В мирное время XX века в разных государствах мира было истреблено 170 миллионов человек. 110 миллионов из них, или примерно две трети, приходится на страны коммунистической ориентации.**

Эти жуткие данные приводятся в книге «Открытая рана» Пера Альмарка, известного шведского политика, который в свое время возглавлял Народную партию и входил в состав буржуазного правительства Швеции, будучи заместителем премьер-министра.

Первым среди европейских авторов Пер Альмарк использует демографические сведения американского профессора Рудольфа Руммеля из университета на Гавайях, который всю жизнь посвятил сбору информации о массовых убийствах на Земле.

В уходящем столетии геноцид принес человечеству чуть ли не в четыре раза больше жертв, чем все войны XX века.





Какие же режимы больше всего отличились расправами над людьми? Автор дает такой ответ: в СССР в 1917—1987 годах были уничтожены 62 миллиона человек, в «коммунистическом Китае» (1949—1987) — 35 миллионов, в Германии (1933—1945) — 21 миллион, в «националистическом Китае» (1928—1949) — 10 миллионов, в Японии (1936—1945) — 6 миллионов, Турции (1909—1923) — 2,8 миллиона.

Всего же в 23 странах так называемого «социалистического содружества» было ликвидировано 110,286 миллиона человек. Кроме СССР и Китая, в уничтожении людей активно усердствовали Камбоджа — 2,2 миллиона, Северный Вьетнам и КНДР — по 1,6 миллиона, Югославия — 1 миллион, Эфиопия — 725 тысяч, Румыния — 435 тысяч, Мозамбик — 198 тысяч и так далее.

В царской России (1900—1917 годы) тоже гибли неповинные люди, но многим меньше — 1 миллион. Из других стран следует отметить Мексику, где в 1900—1920 годах было убито 1,5 миллиона человек, Португалию 1926—1982 годов — 800 тысяч, Индонезию 1965—1987 годов — 700 тысяч.

В книге говорится и о персональной ответственности руководителей за уничтожение людей. Этот список возглавляет Сталин. На счет его режима автор относит 42,6 миллиона жертв. За ним следует Мао Цзэдун — 37,8 миллиона (начиная с 1923 года, то есть задолго до создания КНР), Гитлер — 20,9 миллиона, Чан Кайши — 10,2 миллиона, Хидэки Тодзио (Япония 1941—1945 годов) — 3,9 миллиона, Пол Пот — 2,4 миллиона.

Коммунистический главарь камбоджийского режима Пол Пот является абсолютным лидером в деле массовых убийств в соотношении с численностью населения и временем своего правления. В год он уничтожал 8,16 процента камбоджийцев. В СССР ежегодно истреблялось 0,42 процента населения страны, но этот кошмар продолжался много десятилетий.

Особо Пер Альмарк останавливается на действиях Советского Союза, который он называет «государством ГУЛАГ».

*«Многих граждан, — пишет он, — убивали потому, что они принадлежали не к тому классу. Это были (или должны были быть) буржуазия, аристократия, кулачество. Другие пострадали потому, что относились к плохой нации или расе — это украинцы, черноморские греки, немцы Поволжья, третьи — за плохие политические «фракции» — троцкисты, меньшевики и так далее. А еще были сыновья или дочери, жены или мужья, матери или отцы тех, кого большевики в чем-то обвиняли...»*

Автор «Открытой раны» напоминает об истреблении донских казаков в 1919 году, о голодной смерти миллионов украинских крестьян и ликвидации кулачества, депортации десятков тысяч эстонцев. Пострадали миллионы членов КПСС. Из 62 миллионов погибших 40 миллионов предварительно были брошены в лагеря ГУЛАГа.

**Марат ЗУБКО,**
*«Известия»*

***На снимках: Минск наших дней. 7 ноября они снова выйдут на улицы с портретами Ленина, Сталина, Лукашенко.***







# Туркменбашы – бацька ўсіх туркменаў

**Аўды КУЛІЕЎ**

Гэта — сапраўды ўніверсальны чалавек. Ён адначасова аддае свае сілы на пасадах прэзідэнта, прэм'ер-міністра, старшыні верхняй палаты парламента, старшыні савета старэйшынаў, прэзідэнта гуманітарнай асацыяцыі, старшыні адзінай палітычнай партыі, галоўнакамандуючага ўзброенымі сіламі, старшыні Савета абароны і Савета нацыянальнай бяспекі, а да таго яшчэ кіруе і грамадзянскай абаронай. Парламент даў яму тытул Туркменбашы, што азначае — «бацька ўсіх туркменаў ва ўсім свеце».

Ягоны твар можна сустрэць паўсюль, у тым ліку і на грошах. Ягоная постаць упрыгожвае амаль усе гарадскія плошчы. Ён кантралюе ўсе газеты і іншыя сродкі масавай інфармацыі. Ні адно прызначэнне на дзяржаўныя пасты не праходзіць без ягонага блаславення. Сапармурат Ніязаў кіруе Туркменістанам яшчэ з першых часоў незалежнасці, і ён застанецца на сваёй пасадзе як мінімум да 2002 года.

## Амаль сто працэнтаў

Туркменістан — гэта край, дзе асабістая адданасць прэзідэнту стаіць вышэй за ўсё. Ніязаў сам сябе назваў бацькам сваёй краіны і, здаецца, адчувае сябе як Бог ці як рымскі імператар. Ён лёгка маніпулюе насельніцтвам краіны пры дапамозе, прынамсі, старых, выпрабаваных метадаў савецкіх часоў.

У Ніязава было самае звычайнае савецкае дзяцінства. Ён нарадзіўся ў 1939 годзе ў невялічкай туркменскай вёсцы Гіпяк, потым трапіў у дзіцячы дом, бо асірацеў: ягоны бацька загінуў падчас Другой сусветнай вайны, а маці разам з ягонымі братамі загінула падчас ашхабадскага землятрусу ў 1948 годзе. Пасля вучобы ў Ленінградзе Ніязаў працаваў інструктарам у Цэнтральным камітэце Камуністычнай партыі Туркменіі, а потым стаў першым сакратаром гарсавета туркменскай сталіцы — Ашхабада (сёння Ашгабат). Пазней, у Маскве, ён зноў быў сціплым інструктарам, але ўжо ў Цэнтральным камітэце КПСС. У снежні 1985 Ніязаў стаў першым сакратаром Камуністычнай партыі Туркменіі.

Апынуўшыся на вяршыні, ён паказаў, што добра разумее, куды дзьме перабудовачны вецер пераменаў і як яго павярнуць. У яго выдатны талент павышэння ўласнай папулярнасці ў народзе. Ён часта хадзіў па рынках, нязмушана размаўляў пра цэны, пра тое, як забяспечваць прадуктамі калгасы, закранаў і іншыя «простыя» тэмы, так мілыя сэрцу звычайнага чалавека. Ніязаў горача сустрэў новую эру перабудовы, рэабілітуючы закатаваных пісьменнікаў, навукоўцаў, настаўнікаў, мастакоў і лекараў.

Незадоўга да падзення Савецкага Саюза, у кастрычніку 1990-га, Ніязаў арганізаваў першыя прэзідэнцкія выбары ў Туркменіі — па-савецку, без альтэрнатывы, без кандыдатаў апазіцыі — і быў абраны: 97% выбарчых бюлетэняў былі за Ніязава. Пакуль Ніязаў канцэнтраваў уладу ў сваіх руках, у туркменскім грамадстве яшчэ вяліся такія-сякія дыскусіі.

На канферэнцыі, што адбылася ў 1991 годзе, вядомыя туркменскія пісьменнікі крытыкавалі палітыку Ніязава. Яны гаварылі, што ягоная палітыка паступова прывядзе туркменскі народ да матэрыяльнага і духоўнага банкруцтва. Пагаварылі і замаўчалі. У снежні таго ж года Камуністычная партыя Туркменіі была трансфармаваная ў Дэмакратычную партыю Туркменістана, а Ніязаў быў абраны яе старшынёй.

Ніязаў перамог на першых незалежных выбарах прэзідэнта Туркменіі, атрымаўшы 99,99 працэнта галасоў. Канкурэнтаў у яго зноў не было. У канцы 80-х — пачатку 90-х гадоў у Туркменістане пачаў сваю актыўную дзейнасць рух за дэмакратыю і эканамічныя рэформы, узніклі новыя апазіцыйныя палітычныя партыі: Партыя адзінства, Партыя дэмакратычнага развіцця, Сялянская партыя справядлівасці і некаторыя іншыя. Але калі Ніязаў стаў прэзідэнтам, гэтыя партыі хутка зніклі, а многія дэмакратычныя дзеячы вымушаныя былі адправіцца ў выгнанне.

## Сціскание кулака

За пяць гадоў сапраўднай дыктатуры Туркменбашы ператварыў краіну ў вельмі закрытае грамадства. Цэнзура дзейнічае актыўна і паўсюль, з газетаў, часопісаў, радыё і тэлебачання зніклі крытычныя каментары. Усё, чым займаюцца мясцовыя сродкі масавай інфармацыі, — гэта ўхваленне прэзідэнта і моцнай прэзідэнцкай улады; газеты запоўненыя справаздачамі аб урадавых прыёмах і паседжаннях кабінета міністраў, прэзідэнцкімі пасланнямі і афіцыйнымі эканамічнымі навінамі. Усе газеты і часопісы пачынаюцца з клятвы вернасці сваёй краіне, дзе ёсць і такія словы: *«Няхай адсохне мой язык, калі я пакрытыкую Цябе!»*

## Партрэты, помнікі, вуліцы

Актыўная прапаганда культу асобы Ніязава пачалася ў 1992 годзе, калі адзін з членаў прэзідэнцкага савета павесіў партрэт Ніязава ў сваім кабінеце. Ягоны прыклад пераняў губернатар Марыйскай вобласці, які назваў адзін з калгасаў імем Ніязава. Ніязаву вельмі спадабалася ініцыятыва гэтых двух палітыкаў, і ён прапанаваў ім высокія пасады ў сваім атачэнні.

У хуткім часе дзяржаўныя чыноўнікі па ўсёй краіне паспяшаліся зрабіць тое самае. Пачалося неаб'яўленае спаборніцтва: хто прычэпіць больш партрэтаў Ніязава дзе толькі магчыма. Спачатку партрэты Ніязава з'яўляліся толькі ў кабінетах, але потым яны распаўсюдзіліся паўсюль: цяпер іх можна ўбачыць нават у крамах.



*У дзіцячым басейне маленькі хлопчык скача ў ваду з асаблівай радасцю: з вялізнага партрэта на яго глядзіць сам Туркменбашы.*

Мясцовыя кіраўнікі папрасілі ў Ніязава дазвол на перайменаванне калгасаў і прадпрыемстваў у ягоны гонар. У абласных цэнтрах, гарадах і нават вёсках сталі з'яўляцца помнікі Ніязаву. У самых прыгожых месцах улады пачалі будаваць палацы для яго. Ягонае імя носяць горад, два сельскія раёны, адзін з раёнаў сталіцы, карабель, бальніцы і паліклінікі, акадэмія сельскагаспадарчых навук, сельскагаспадарчы інстытут, школы, вуліцы і плошчы...

У траўні 1993 савет старэйшынаў прыняў рашэнне аб узвядзенні помнікаў Ніязаву ва ўсіх гарадах і вёсках краіны. Яшчэ праз некалькі месяцаў парламент прысвоіў Ніязаву імя Туркменбашы, а ягоны дзень нараджэння — 19 лютага — стаў дзяржаўным святам краіны.

Ніязаў двойчы атрымаў званне «Герой Туркменістана», і кожны раз, чапляючы на грудзі медаль, клаў у кішэню 100 тысячаў долараў. Пакуль што гэтага звання быў удастоены толькі ён. Кіраўнікі замежных нафтавых кампаніяў, што дзейнічаюць у Туркменістане, атрымалі спецыяльную дзяржаўную ўзнагароду — Зорку прэзідэнта.

Быццам члены Святога сямейства, прэзідэнцкія бацькі таксама ўзвышаныя да нябёсаў: у іхні гонар названыя дзве вуліцы ў Ашгабаце, кінатэатр і тэкстыльнае прадпрыемства носяць імя маці прэзідэнта, а адна бальніца названая ў гонар ягонага бацькі. Помнікі бацькам прэзідэнта можна пабачыць у некалькіх гарадах Туркменістана.

У 1994 годзе туркменскі народ амаль аднагалосна выразшыў падоўжыць тэрмін ніязаўскага прэзідэнцтва да 2002 года. Пасля гэтага рашэння па замовах мясцовых уладаў, прадпрыемстваў і арганізацыяў пачаліся ствараць песні, вершы і фільмы, прысвечаныя Туркменбашы, а таксама ягоныя скульптуры, фотаздымкі і партрэты. Ад мастакоў, кампазітараў, паэтаў і кінематаграфістаў сталі патрабаваць як мага болей асвятляць жыццё і дзейнасць Туркменбашы.

## З прэтэнзіяй на Нобеля

Хоць папулярнасць Ніязава вельмі высокая, ён вельмі не любіць крытыку. Аднак часцей за ўсё яго крытыкуюць замежнікі і выгнаннікі. Пачынаючы з 1994 года, туркменскія сродкі масавай інфармацыі няспынна паўтаралі, што расійскі саюз пісьменнікаў прапанаваў кандыдатуру Ніязава на Нобелеўскую прэмію і што шмат вядомых паэтаў, мастакоў і палітыкаў, сярод якіх і сам Міхаіл Гарбачоў, падтрымалі гэтае вылучэнне. Аднак пасля таго, як сасланы туркменскі пісьменнік Акмухамед Вельсапар выступіў у расійскай прэсе з шэрагам артыкулаў, якія даказвалі, што Ніязаў ніколі не разглядаўся як магчымы кандыдат на Нобелеўскую прэмію, а Гарбачоў увогуле нічога пра гэта не ведае, кампанія ў туркменскіх СМІ спынілася.

Ведаючы слабасць Ніязава да пахвал і дыфірамбаў, заходнія бізнесмены ахвотна гэтым карыстаюцца. Адна турэцкая кампанія надрукавала шматтомны зборнік прамоваў Ніязава, каб іх можна было распаўсюджваць на Захадзе, як гэта ў савецкія часы рабілася з творамі Леаніда Брэжнева. Нідэрландскія аматары кветак вырасцілі новы сорт вяргіні, які назвалі «Туркменбашы». У Францыі стварылі парфуму з такой жа назвай. Гэтыя захады прынеслі прадпрымальнікам вялізныя льготы ў Туркменістане і фантастычныя прыбыткі.

## Дзяржава для прэзідэнта

У 1993 годзе Ніязаў часта з'яўляўся на экранах тэлевізараў і заклікаў народ не турбавацца наконт будучыні, бо, маўляў, на рахунках у замежных банках Ніязаў мае 3 мільярды долараў. Але неўзабаве газета «Туркменская Искра» надрукавала артыкул наконт валютных рэзерваў краіны: *«З мэтай захавання эканамічнай стабільнасці дзяржавы... прэзідэнт Туркменістана вырашыў аб'явіць валютныя сродкі, што знаходзяцца на рахунках у Цэнтральным банку, валютнымі рэзервамі Туркменістана»*. А грошы з валютных рэзерваў могуць быць выдаткаваныя толькі па распараджэнні прэзідэнта.

Маючы неабсяжнае багацце ў сваім распараджэнні, Ніязаў жыве, як кароль, а ягоная сям'я — як каралеўская сям'я. Як паведаміла летась лонданская *Sunday Times*, сын Ніязава за адну ноч прайграў 8 мільёнаў фунтаў (амаль 13 мільёнаў долараў) у іспанскім казіно. Між тым, сярэдні заробак туркменскага працаўніка складае толькі 10—15 долараў штомесяц. Вады ў жылых дамах няма амаль увесь дзень, нават у сталіцы — але побач з прэзідэнцкім палацам б'юць фантаны, акружаныя прывезенымі з-за мяжы дрэвамі.

Увогуле ж у Ашгабаце 10 прэзідэнцкіх палацаў і неўзабаве будзе пабудаваная гіганцкая копія парыжскай Эйфелевай вежы з гіганцкай статуяй Туркменбашы на вяршыні. Застаецца хіба толькі аб'явіць яго святым — але туркмены мусульмане, святых у іхняй рэлігіі няма...

*Пераклаў*
**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

*Аўды Куліеў быў міністрам замежных справаў Туркменістана з 1990 па 1992 год. Пасля ён сышоў з урада, каб працаваць разам з туркменскай апазіцыяй у Маскве. Да апошняга часу ён працаваў у туркменскай службе Радыё Свабода ў Празе.*

*© Transition*




*Ніязаў пачынаў з малога: спачатку ягоны партрэт з'явіўся на паштовых марках. Сёння прэзідэнт глядзіць з усіх грашовых купюр.*



## Інтэлектуалы падтрымліваюць пашырэнне NATO

**Ідэя пашырэння *NATO* на Усход мае шырокую падтрымку ў дзяржавах — членах Паўночнаатлантычнага альянсу і ў краінах-кандыдатах.**

У выніку праведзенага апытання грамадскай думкі сярод рэспандэнтаў з дастаткова высокім узроўнем адукацыі высветлілася, што ў падтрымку пашырэння *NATO* ў Брытаніі выступіла 67%, у Францыі — 63%, у Германіі — 60%, у Італіі — 67%, Іспаніі — 71%, Нідэрландах — 74%, Турцыі — 58%. Паказальна, што малаадукаваныя людзі або не маюць ніякай думкі наконт пашырэння блоку, або ставяцца да гэтага абыякава.

У краінах-кандыдатах на ўступленне працэнт падтрымкі сярод нацыянальнай адукаванай эліты яшчэ вышэйшы: у Чэхіі — 80%, Венгрыі — 83%, Польшчы — больш за 90% (папярэднія звесткі). У краінах, якія могуць быць прынятыя ў *NATO* ў пазнейшыя тэрміны, падобная сітуацыя: Балгарыя — 72% падтрымкі, Румынія — 93%, Славенія — 70%, Славакія — 61%.

Гэтыя лічбы даюць падставы гаварыць, што парламенты ўсіх краін *NATO* адобраць прыняцце новых членаў у альянс. Чакаецца, што ў канцы лістапада — пачатку снежня *NATO* апублікуе спецыяльнае даследаванне, прысвечанае пашырэнню арганізацыі, і будуць абвешчаныя канкрэтныя сумы, якія, паводле разлікаў, давядзецца затраціць на пашырэнне блока.

Фармальнае прыняцце рашэння аб прыёме новых членаў прызначанае на красавік 1999 года, калі будзе адзначацца 50-годдзе *NATO*.

*USIA*

## Тэрарызм распаўзаецца праз камп'ютэрныя сеткі

**Разнастайныя тэрарыстычныя і шавіністычныя групоўкі шырока выкарыстоўваюць глабальную камп'ютэрную сетку *Internet* для прапаганды сваіх ідэй і пашырэння ўплыву ў свеце.**

Паводле інфармацыі экспертаў, за апошнія некалькі гадоў у *Internet* з'явілася больш за 250 так званых «старонак нянавісці», якія прапагандуюць радыкальна-нацыяналістычныя і, у прыватнасці, антысеміцкія ідэі і тэорыі.

Дакладныя лічбы назваць цяжка, але факт: колькасць экстрэмісцкіх арганізацыяў увесь час павялічваецца. На сённяшні дзень *Internet* з'яўляецца самым даступным, танным і фактычна беспакараным спосабам папулярызацыі экстрэмісцкіх ідэй.

**М.Н.**

# Процесс Клинтон–Джонс состоится в мае

С того момента, как брюнетка Пола Джонс обвинила президента США в том, что он снял перед ней брюки весной 1991 г. в номере отеля «Эксельсиор», Билл Клинтон остается верен избранной с самого начала тактике: молчать и надеяться на то, что адвокаты сумеют наконец уладить самый скабрезный эпизод за все время его президентства.

Однако американское правосудие в лице другой женщины, Сьюзан Уэбер, решило иначе: президент США предстанет перед судом присяжных 26 мая 1998 г. в г.Литтл Рок по обвинению в сексуальных домогательствах. Это решение стало неизбежным после того, как Верховный суд отклонил весной тезис о «неприкосновенности» действующего президента. Теперь, чтобы избежать публичного унижения перед телекамерами, президент может рассчитывать только на «полюбовное» примирение с Полой Джонс.

Верный своей линии поведения Билл Клинтон продолжает хранить молчание. В сентябре он, как всегда, провел отпуск в кругу семьи на заброшенном острове в штате Массачусетс. О настроении президента можно судить по заявлениям его личного адвоката Роберта Беннетта, который, узнав о том, что судебный процесс практически неизбежен, сказал: *«Мы хотим только одного — чтобы это все быстрее кончилось»*. Защитники президента пока что могут утешать себя лишь тем, что судья отклонил две жалобы Полы Джонс: по поводу клеветы и нарушения ее конституционных прав.

### Охота за свидетелями

Судебный процесс в Литтл Роке продлится месяц, из которого пять дней будет отведено защите. Из уважения к посту, занимаемому Биллом Клинтоном, ему будет предоставлена возможность записывать свои показания на видеокассеты, что избавит его от необходимости личного присутствия в суде. В июле Клинтон уже направил в суд ходатайство о прекращении дела в связи с отсутствием состава преступления, где он утверждает, что *«никогда не пытался ухаживать за жалобщицей и не подвергал ее сексуальному преследованию»*. По словам адвоката, президент *«не намерен извиняться и никогда не признает то, чего не было»*.

Пола Джонс, улыбающаяся 30-летняя красотка с длинными черными волосами, успевшая за это время обзавестись семьей, требует от президента 700.000 долларов за нанесенный моральный ущерб; деньги она намерена потратить на себя и на благотворительные дела.

Однако процесс может навредить не только обвиняемому, но и обвинительнице. Прежде чем согласиться с тем, что президент США должен нести ответственность наравне с остальными гражданами и что секретарша из городка Литтл Рок заслуживает, чтобы ее выслушали, американская пресса, левые и феминистские организации долго воротили нос от «откровений» Полы Джонс. Дочь проповедника, выросшая в фургоне на колесах, вечная секретарша на временных условиях работы и, наконец, обнаженная манекенщица на страницах журнала *Penthouse* не совсем соответствует общепринятому образу свободной американской женщины. Кроме того, адвокаты президента продолжают настаивать на том, что если 8 мая 1991 г. в номере отеля «Эксельсиор» что-то и произошло, то попросить женщину о сексуальной любезности вовсе не означает подвергнуть ее сексуальным домогательствам.



*Пола Джонс любит улыбаться.*

Со своей стороны адвокаты Полы Джонс не скрывают, что их цель — показать присяжным, что такие интрижки были привычным делом для бывшего губернатора штата Арканзас, а ныне президента, и что злоключение с Полой Джонс было для Билла Клинтона далеко не единственным.

*Le Figaro*

# Опасный «малыш» в Тихом океане

**В Тихом океане продолжается развитие климатических процессов, которые могут вызвать самые мощные природные катаклизмы за последнее столетие.**

Как считают американские ученые, весьма вероятна сильная засуха в ряде регионов Азии, Африки, Северной и Южной Америки. С другой стороны, в иных частях этих континентов сильные дожди могут вызвать небывалые наводнения. Всё вместе это может привести к потере урожая в Южном полушарии и массовому голоду. Вероятно, менее всего катаклизмы затронут Европу.

Самые неблагоприятные погодные условия ожидаются в декабре-январе, а в последующие месяцы они должны пойти на спад, отметил Леетмаа, директор Центра прогнозирования климата США.

Комплекс подобных климатических процессов над акваторией Тихого океана имеет условное название «Эль-Ниньо». Аналогичные явления 1982—83 гг. — наиболее широкомасштабные и разрушительные на сегодняшний день в нашем столетии — унесли жизни более 150 человек и причинили вред на сумму более 2 млрд. долларов. Эти погодные явления получили название «Эль-Ниньо» потому, что рыбаки, занимающиеся промыслом у берегов Южной Америки, стали первыми, кто отметил необычное потепление воды в Тихом океане каждые несколько лет и связанные с этим впоследствии погодные катаклизмы. Обычно такие явления наблюдаются в канун Рождества Христова, и рыбаки назвали его «Эль-Ниньо», что означает «малыш».

*USIA*

# Грузинскому дипломату грозит 70 лет тюрьмы

Грузинский дипломат Георгий Махарадзе может быть приговорен к 70 годам тюремного заключения, если американский суд признает его виновным в убийстве 16-летней Джовианы Уолтрик, погибшей в результате крупной автомобильной аварии в пригороде Вашингтона.



*Георгий Махарадзе.*

3 января 1997 г., когда произошел этот случай, 36-летний Махарадзе занимал вторую по значимости должность в посольстве Грузии в США. По утверждению обвинения, он находился в нетрезвом состоянии, когда его автомобиль на скорости 135 км в час врезался в один из автомобилей, остановившихся на красный свет светофора. От удара машину подбросило в воздух, и она упала на автомобиль, в котором находилась Джовиана.

Этот случай получил широкую международную огласку и вызвал острые споры в США о необходимости привлечения к ответственности иностранных дипломатов, нарушающих американские законы. Сегодня в США более 25.000 иностранных представителей защищены статусом дипломатической неприкосновенности от судебных преследований за различного рода нарушения — от неуплаты за стоянку до уголовных преступлений. Однако на этот раз после длительных переговоров между США и Грузией Георгий Махарадзе был лишен дипломатической неприкосновенности и предстал перед судом. *«Ваша честь, я готов понести полную ответственность за случившееся»*, — заявил он в Верховном суде Вашингтона. Махарадзе обвиняется в непреднамеренном убийстве с четырьмя отягчающими вину обстоятельствами. Судья Гарольд Кашенбери вынес постановление о содержании его под стражей до вынесения приговора 19 декабря 1997 г., посчитав, что он представляет опасность для общества.

Махарадзе и раньше не ладил с американскими законами. В 1996 г. он привлекался к ответственности за превышение скорости, а четыре месяца спустя его арестовали по подозрению в управлении автомобилем в нетрезвом виде. В обоих случаях от судебного преследования его спасла только дипломатическая неприкосновенность.

Иностранные дипломаты редко вступают в серьезные конфликты с законом. Однако дипломатическая неприкосновенность всегда выручала их при таких нарушениях, как стоянка в запрещенном месте. В прошлом году только в Нью-Йорке дипломатам было выписано 130.000 квитанций, по которым так и не было получено 5 млн. долларов штрафов. Если дипломаты совершают серьезные преступления, американское правительство, как правило, добивается снятия с них дипломатической неприкосновенности.

В 1989 г. Бельгия лишила статуса дипломатической неприкосновенности одного из сотрудников обслуживающего персонала своего посольства в Вашингтоне, совершившего два убийства. Сейчас он отбывает 25-летнее тюремное заключение. В 1994 г. генеральный консул Ирландии проехал на красный свет и врезался в два автомобиля, нанеся телесные повреждения шестерым. Он был лишен дипломатической неприкосновенности и приговорен к трем годам условно.

Мать Джовианы Уолтрик начала общественную кампанию против злоупотребления дипломатической неприкосновенностью. *«Я понимаю, что мою дочь уже не вернуть*, — заявила она корреспондентам, — *но я буду продолжать бороться, потому что дипломатическая неприкосновенность не означает дипломатическую вседозволенность»*.

*U.S.A. Today*

## Упартыя індзейцы не хочуць статуі Свабоды

**Адно з індзейскіх плямёнаў патрабуе праз суд, каб яму вярнулі колішнюю ўласнасць — астравы Эліс-Айлэнд і Лібэрці-Айлэнд, якія знаходзяцца ў цэнтры Нью-Ёрка.**

На Эліс-Айлэндзе месціцца галоўны іміграцыйны цэнтр ЗША, а на Лібэрці-Айлэндзе ўзвышаецца сімвал Амерыкі — статуя Свабоды. Як заявіў адзін са старэйшынаў племені, калі індзейцы атрымаюць свой востраў, статую яны вернуць Францыі, адкуль яна прыбыла ў 1886 годзе як падарунак ад Французскай Рэспублікі.

## Тэхас – чэмпіён па смяротных пакараннях

**Як паведамляе міжнародная праваабарончая арганізацыя *Amnesty International*, амерыканскі штат Тэхас не саступае па колькасці смяротных пакаранняў такім «лідэрам», як Іран, Ірак і Саудаўская Аравія.**

Толькі на штат Тэхас прыпадае больш чым трэцяя частка ўсіх выкананых у Злучаных Штатах смяротных прысудаў (з часу аднаўлення смяротных пакаранняў у краіне ў 1976 г. іх было каля 4.000). Летась у Тэхасе было здзейснена 19 смяротных пакаранняў, а сёлета чакаецца яшчэ больш.

## Небяспечныя цыгарэты

**Ад дыму цыгарэт, якія паляць бацькі, гіне больш дзяцей, чым ад усіх іншых прычын дзіцячай смяротнасці, узятых разам.**

Да такой высновы прыйшлі вучоныя ўніверсітэта г.Вісконсін (ЗША). Выдаткі на лячэнне дзяцей, што захварэлі праз сваіх бацькоў-курцоў, каштуюць Злучаным Штатам 4,6 трыльёна долараў штогод.

*Паводле матэрыялаў замежнай прэсы паласу падрыхтаваў*

**Уладзімір АБАНІН**

*Анкета*

# Нас цікавіць думка кожнага

**1. Якім чынам Вы атрымліваеце СВАБОДУ?**

- ☐ па падпісцы
- ☐ купляю ў кіёсках
- ☐ купляю ў прыватных распаўсюднікаў
- ☐ іншым чынам (якім?) ____________

**2. Вы жадаеце рэгулярна чытаць СВАБОДУ, але не падпісваецеся на газету. Чаму?** (магчыма некалькі адказаў)

- ☐ высокі кошт падпіскі
- ☐ баіцеся, што газету могуць забараніць
- ☐ газету часта крадуць з паштовай скрынкі
- ☐ пошта позна дастаўляе газету
- ☐ выпісваеце іншую газету (якую?) ____________
- ☐ не ў кожным нумары СВАБОДЫ ёсць цікавая для Вас інфармацыя (якая менавіта?) ____________
- ☐ не падпісваецеся па іншых прычынах (якіх?)

____________

**3. Калі кошт падпіскі для Вас высокі, то ці задаволіць Вас такі варыянт:**

- ☐ падпіска стане таннейшай, але замест трох нумароў на тыдзень газета будзе выпускацца толькі адзін раз
- ☐ газета па-ранейшаму будзе выходзіць тры разы, але толькі на 4-х палосах і стане каштаваць менш

**4. Як вы лічыце: чаго ў газеце многа, а чаго не хапае?**

| | Многа | Мала | Дастаткова |
|---|---|---|---|
| Палітычныя навіны і каментарыі | | | |
| Аналітыка | | | |
| Міжнародная інфармацыя | | | |
| Інфармацыя пра Расію | | | |
| Інфармацыя пра іншыя краіны СНД | | | |
| Гісторыя | | | |
| Культура | | | |
| Інфармацыя з рэгіёнаў Беларусі | | | |
| Інтэрв'ю | | | |
| Ілюстрацыі | | | |
| Спорт | | | |
| Свецкая хроніка | | | |
| Здарэнні, крымінал | | | |

**4а. На якія яшчэ тэмы мала інфармацыі ў газеце?** (назавіце)

____________

**5. Якія газетныя старонкі і рубрыкі Вы чытаеце ці не чытаеце?**

| | Чытаю цалкам | Праглядаю, часткова чытаю | Не чытаю зусім |
|---|---|---|---|
| першая паласа | | | |
| другая паласа | | | |
| пошта | | | |
| паралелі (замежная інфармацыя) | | | |
| гісторыя | | | |
| культура | | | |
| спорт | | | |
| даты і лёсы | | | |

**6. Матэрыялы якіх аўтараў Вы чакаеце і чытаеце перш за ўсё?** (назавіце прозвішчы)

____________

**Паважаныя чытачы! Запоўненую анкету просьба даслаць на адрас рэдакцыі: 220088, Мінск, вул.Іванаўская, 56. Рэдакцыя газеты СВАБОДА**

